# Вольнае Глыбокае

Штотыднёвая газета

**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

vglybokaye@tut.by

**№49 (609) 8 снежня 2011 года.**
**Кошт свабодны.**


*Фота Ул. Скрабатуна*



**У чаканні зімы.**
*Возера Вялікі Супонец.*

Мёрскі раён

# Расплата за няўважлівасць

■ Станіслаў Раманчук

**Напрыканцы сёлетняй зімы жыхароў Мёрскага раёна вельмі ўзрушыла дарожнае здарэнне з цяжкімі наступствамі.**

Везучы дамоў сям'ю з радзільнага дома ў Навапалацку, па віне маладога вадзіцеля іншамаркі, як было ўстаноўлена следствам па крымінальнай справе, загінулі на месцы ДТЗ 20-гадовая маці і яе маленькая дачка, а таксама суправаджаючая, 44-гадовая патранажная сястра. У той ракавы дзень 21-гадовы кіроўца праявіў няўважлівасць і стаў паварочваць на дарозе, не пераканаўшыся ў магчымасці беспечнага манеўру. У гэты момант на вялікай хуткасці міні-вэн, быццам танк, пратараніў легкавушку, і тры жанчы ны на заднім сядзенні загінулі. Ехаўшыя напярэдзе сам вадзіцель і 23-гадовы бацька нованароджанай дзяўчынкі атрымалі цяжкія раненні, але выжылі. Яны, у адрозненне ад іншых пасажыраў аўто, былі прышпілены рамянямі бяспекі і таму ўцалелі. Пасля гэтага было закончана расследаванне па гэтай справе, і віноўнік трагедыі апынуўся на лаве падсудных. Яго віна ў гэтым ДТЗ была даказана, і па прыгаворы суда наступныя чатыры гады жыцця ён правядзе за кратамі. Адначасова вінаваты вадзіцель быў пазбаўлены правоў кіравання транспартнымі сродкамі на працягу 5 гадоў. Вядома, з цягам часу закончыцца для яго тэрмін пакарання за трагедыю, якую можна было прадухіліць. Аднак па далейшым жыцці гэтаму хлопцу прыйдзецца прайсці з цяжкімі маральнымі пакутамі, калі ўжо нічога не паправіць...

Пастаўскі раён

# Церамок ля дарогі

■ Кастусь Александровіч

**У наш час добра жыве толькі той, хто не стаіць на месцы, а бесперапынна развіваецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі спажыўцоў і рынку.**

Менавіта ў такім накірунку стараецца дзейнічаць адзін з лепшых у Беларусі калектыў Пастаўскага райспажыўсаюза. У самім райцэнтры паблізу Палаца Тызенгаўза ён пачаў узвядзенне самага буйнога ў горадзе супермаркета з гандлёвай плошчай тысяча кв. метраў. А побач, па суседстве з урочышчам "Сасноўка", у раёне новага мікрараёна індывідуальнай забудовы з паўтысячай насельніцтва днямі быў адкрыты новы магазін "Верас" у выглядзе драўлянага церамка ля трасы да літоўскай граніцы. Выкарыстанне мясцовай драўніны для зруба дазволіла істотна сэканоміць сродкі і адначасова аснасціць гандлёвы аб'ект сучасным нямецкім гандлёвым абсталяваннем адкрытай выкладкі. Немалаважна для пакупнікоў і тое, што крама працуе з улікам пажаданняў людзей з раніцы да 8-мі вечара без выхадных і перапынкаў на абед, мае вялікі асартымент тавараў. Дарэчы, перад Калядамі ў Паставах кааператары запусцяць і новы магутны сучасны кандытарскі цэх з магутнасцю да 3 тон выпечкі ў суткі, а таксама новы магазін у вёсцы Навінкі ля мясцовага рыбгаса. Сёлета новы гандлёвы цэнтр парадаваў жыхароў вёскі Ляхаўшчына, а на чарзе яшчэ адзін аб'ект прыдарожнага сервісу ля дарогі на Браслаў, які ўзводзіцца ў мікрараёне былога ваеннага гарадка.

Браслаўскі раён

# Барысаў камень – да юбілею

■ Чэслаў Якубовіч

**Па маляўнічым азёрным Браслаўскім краі пракладзена шэраг цікавых турысцкіх маршрутаў, і па адным з іх прама з турбазы на байдарках альбо на лодках можна даплысць да мястэчка Друя.**

У мінулым гэта быў невялікі горад са статусам магдэбургскага права, а днямі гэты цяпер аграгарадок адзначыў 625-гадавіну з дня заснавання. Ад мінулых стагоддзяў ён адрадзіў свой герб: парусную ладдзю на сінім фоне, хоць з цягам часу ў віхуры шматлікіх войн і іншых гістарычных узрушэнняў страціў значэнне буйнога гандлёвага і прамысловага цэнтра. Аднак да свайго свята Друя абзавялася ў самым цэнтры паселішча гіганцкім Барысавым каменем – унікальным помнікам, які некалькі гадоў назад быў падняты з дна прытока Заходняй Дзвіны, ракі Друйкі. Падчас юбілейных урачыстасцей тут арганізавалі шэраг цікавых выстаў, ушанавалі сваіх заслужаных землякоў у прысутнасці паважаных гасцей-суседзяў з Латвіі.

Усім прыйшлася даспадобы бяспройгрышная латарэя, галоўным прызам якой стала ... жывое цяля. Арганізатары ўрачыстасцей запрасілі на свята ў Друю і сваіх знакамітых землякоў. Дарэчы, і сёння ў мястэчку ёсць што пабачыць: найперш частку комплекса кляштара 17-га стагоддзя, старажытную сядзібу з паркам над ракой, Троіцкі касцёл. Цікава, што на супрацьлеглым баку Дзвіны месціцца латышскі пасёлак Пiедруя, і ў ім таксама дзейнічае касцёл XVIII стагоддзя, пабудаваны, як і беларускі, у стылі барока.




# Лічба нумара

**866000** – столькі сем'яў і адзінокіх грамадзян, па дадзеных урада, знаходзяцца цяпер у Беларусі ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Менавіта сярод іх зараз назіраецца хваляванне, бо пакуль было невядома, якой будзе нацыянальная праграма жыллёвага будаўніцтва на 2012 год. І толькі спецыялістам галіны было зразумела, што ў перыяд эканамічнага крызісу сродкаў на ранейшыя льготныя крэдыты на ўзвядзенне жылля на ўсіх не хопіць і пакрыўджаных суайчыннікаў акажацца шмат.

Справа ў тым, што, каб дапамагчы жадаючым абзавесціся дахам над галавой, дзяржаве патрэбна мець на гэтыя мэты гіганцкую суму, каля 74 трыльёнаў рублёў. І вось віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін прама заявіў, што з усіх крыніц фінансавання ўдалося на наступны год сабраць 7,5 трыльёнаў і яшчэ 1 трлн. рублёў збяруць мясцовыя бюджэты. Для параўнання, на бягучы год у краіне мелася 11,5 трлн. рублёў ільготнага крэдытавання, але з-за высокай інфляцыі і дэвальвацыі айчыннай валюты даволі шмат раней запланаванага жылля не было пабудавана.

Далей, як кажуць, болей праблем. Ужо падлічана, што ў будучым годзе кошт узвядзення 1-га квадратнага метра жылля нават для тых, хто стаіць у чарзе, складзе амаль 4,5 млн. рублёў, хоць такія сумы сярод беларусаў мала хто атрымлівае. Простая арыфметыка паказвае, што сабраных дзяржавай грошай на дзяржпадтрымку хопіць на тое, каб пабудаваць дзесьці 2 млн. кв. метраў жылля. На астатнія 4 мільёны квадратаў грамадзяне могуць разлічваць, калі добра зарабляюць і маюць адпаведныя сродкі ўзяць банкаўскія крэдыты на агульных умовах.

А ўмовы такія па-сутнасці драконаўскія, паколькі пад 40-50 % гадавых з выплатай штомесячных узносаў па жыллёвых крэдытах у межах 3-4 млн. рублёў у месяц. Ды і без штомесячных даходаў заёмшчыкаў не ніжэй за 8 млн. рублёў банкаўскія ўстановы з вамі цяпер проста звязвацца не будуць. Таму з нецярпеннем беларусы і бударганізацыі чакалі выхаду прэзідэнцкага ўказа з пералікам новых катэгорый грамадзян, якія могуць атрымаць дзяржпадтрымку на ўзвядзенне жылля.

Пэўныя такія звесткі аб ільготніках з'явіліся раней, і быццам гэты спіс скараціўся да 15 пазіцый. У самым прывілеяваным становішчы апынуліся шматдзетныя сем'і з чатырма і болей дзецьмі, для якіх крэдыт будзе на 40 гадоў пад 1 %. А вось сем'і, дзе дзяцей толькі 3, трапляюць у другую групу, дзе льготы крыху меншыя. У групу шчаслівых ільготнікаў трапілі быццам таксама з пэўнымі агаворкамі ваеннаслужачыя і сем'і з дзецьмі-інвалідамі, сем'і, якія пражываюць у дамах-развалюхах і ў інтэрнатах больш за 10 гадоў.

Да льготных катэгорый аднеслі таксама больш бедных жыхароў глыбінкі, сельскіх рэгіёнаў, жыхароў населеных пунктаў з насельніцтвам меней за 20 тысяч чалавек. Да льготнікаў аднясуць сем'і з двума і болей дзецьмі, але яны павінны былі знаходзіцца ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Асаблівыя ўмовы стварылі для жыхароў Мінска: для іх ільготы будуць дзейнічаць у гарадах-спутніках тыпу Смалявіч, праўда, норма крэдытавання для мінчан меншая – да 15 кв. метраў на члена сям'і. У іншых населеных пунктах такая плошча большая – 20 кв. метраў на чалавека.

Распрацоўшчыкі дакумента падумалі і аб сем'ях, дзе мамы знаходзяцца ў дэкрэтных водпусках і не працуюць, але будуюць жыллё. Для іх будзе адтэрміноўка, і сям'я пачне пагашаць крэдыт, калі жанчына вернецца на працу. Пашчасціла тым арганізацыям забудоўшчыкаў, хто не пабаяўся заключыць дагавор раней з банкамі, але будаўніцтва не пачалося. Для такіх дагаворныя абавязкі будуць выкананы. А вось многім, відавочна, прыйдзецца адмовіцца ад мары займець камфартабельнае жыллё з дапамогай дзяржавы.

У нялёгкі час для беларускай эканомікі стаў палёгкай больш танны газ у абмен на больш шчыльную інтэграцыю з Расіяй. Праўда, беларусы адзіныя сярод сваіх суседзяў засталіся без трубы і заплацяць за газавыя льготы ўвахожаннем расійскага капіталу ў нашу эканоміку і ваенна-палітычнай прывязкай да Крамля. Хоць для нас газ стаў таннейшы дзесьці на 40 %, не будзем забываць, што гэта цана ўсё роўна значна большая, чым у Смаленскай вобласці. Толькі з 2013 годы цэны на газ прывяжуць па новай формуле да ўнутрырасійскіх, і новыя беларускія навасёлы, магчыма, стануць спажываць паліва ў сваіх толькі што ўзведзеных кватэрах.

**Надвор'е ў Глыбокім** www.rp5ru

| | чацвер 08.12.11 | | | | пятн. 09.12.11 | | | | сб. 10.12.11 | | | | нядз. 11.12.11 | | | | пн.12.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | 0 | -1 | 0 | -2 | -1 | 0 | -1 | -1 | +1 | +1 | +1 | 0 | +1 | 0 | 0 | 0 | +1 | +2 | +1 |
| Ціск, мм | 741 | 742 | 742 | 746 | 747 | 746 | 744 | 742 | 739 | 739 | 739 | 741 | 740 | 738 | 736 | 739 | 742 | 745 | 747 |
| Вільготнасць, % | 93 | 93 | 84 | 94 | 93 | 91 | 83 | 91 | 96 | 92 | 82 | 93 | 93 | 96 | 81 | 91 | 90 | 91 | 85 |
| Вецер м/сек | Ю 5 | Ю-В 4 | Ю-В 5 | В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 5 | Ю 6 | Ю 7 | Ю 8 | Ю-З 3 | Ю-З 6 | Ю-З 4 | Ю 5 | Ю-З 4 | Ю-З 6 | З 6 | З 4 | З 5 | З 3 |
| | | 09:20 | 16:41 | | | 09:22 | 16:40 | | | 09:23 | 16:40 | | | 09:24 | 16:40 | | | 09:25 | 16:40 |
| | | 15:13 | 07:06 | | | 15:48 | 08:10 | | | 16:34 | 09:09 | | | 17:31 | 09:59 | | | 18:37 | 10:39 |

## Дзень за днём

**Пры запланаваных на 2012 год інфляцыйным росце ВУП на 5 % і будаўніцтве 5,7 млн. кв. метраў жылля дэвальвацыя беларускага рубля зноў можа скласці 50-100 %. За студзень-верасень у Беларусь было прыцягнута толькі 18 % прамых замежных інвестыцый ад гадавога плану. Ва ўрадзе пацвердзілі, што ў Беларусі пакуль пенсійны ўзрост павышаць не будуць, а ў Польшчы плануюць узрост 67 гадоў для мужчын для выхаду на адпачынак. Супраць грыпу ў Беларусі прышчапілі больш за трэць насельніцтва краіны. У айчынных магазінах пачаўся продаж штучных навагодніх ёлак, лясгасы рыхтуюцца да перадсвяточных кірмашоў зялёных дрэўцаў, а самі беларусы – да найбольш радасных калядных свят і сустрэчы Новага года.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Як паведаміла Міністэрства фінансаў, дзяржаўны доўг краіны дасягнуў неверагодных памераў – перавысіў 15 трлн. $ – патрабуецца скарачаць расходы бюджэту.

**Расія.** Былы віцэ-прэм'ер расійскага ўрада 54-гадовы Віктар Хрысценка ўзначаліў Еўразійскую эканамічную камісію, створаную РФ, РБ і Казахстанам на манер Еўрасаюзу.

**Лівія.** Услед за сынам экс-дыктатара Сейфам аль Ісламам Кадафі ваенныя новай улады арыштавалі і былога кіраўніка дзяржбяспекі Абдулу ас Сенусі, іх будуць судзіць дома.

**Конга.** Пры заходзе на пасадку ў дрэннае надвор'е за 800 км ад сталіцы разбіўся ваенны верталёт МІ-8, загінуў пілот, беларускі лётчык, яшчэ 3 члены экіпажа атрымалі раненні.

**Бірма.** Дайшоўшы да "ручкі", адна з самых закрытых, рэпрэсіўных і бедных краін свету пайшла на дэмакратызацыю, дала свабоду дзейнасці сваёй апазіцыі, палітзняволеным.

**Венесуэла.** Нягледзячы на сваю хваробу на рак, лысы пасля хіміятэрапіі прэзідэнт Уга Чавес аб'явіў, што збіраецца кіраваць краінай да 2031 года і будаваць тут сацыялізм.

**Польшча.** МЗС краіны пацвердзіла, што беларускі бок ужо 14 месяцаў не гатовы далучыцца тэхнічна да дамовы аб малым прыгранічным руху.

**ЗША.** Пентагон правёў паспяховы пробны пуск навейшай звышгукавой ракеты, гэта зброя з хуткасцю, вышэйшай у 5 разоў за хуткасць гуку, за гадзіну знішчыць любую цэль.

**Англія.** Вучоны Гарвардскага ўніверсітэта Ніл Фергюсан спрагназаваў, што праз год у ЗША будзе новы прэзідэнт, Ізраіль ударыць па Ірану, Англія пакіне ЕС да 2021 года.

**Бразілія.** Па дадзеных перапісу насельніцтва, са 191 млн. бразільцаў белыя (91 млн) перасталі быць большасцю ў краіне, тут жыве яшчэ 15 млн. неграў і 2 мільёны азіятаў.

**Ватыкан.** Буйны вытворца адзення Benetton пасля абурэння іерархаў касцёла зняў сваю рэкламу-фоташоп з відам пацалунка Папы Бенедыкта XVI і егіпецкага імама.

**Грузія.** Да 20-годдзя распаду СССР у цэнтры Тбілісі адкрылі помнік экс-прэзідэнту ЗША Р. Рэйгану з яго словамі: "Кожнае пакаленне павінна клапаціцца аб захаванні свабоды".

**Чэхія.** Былы прэзідэнт Вацлаў Гавел і шэраг вядомых людзей Еўропы звярнуліся ў Міжнародную федэрацыю хакею з заклікам перанесці з РБ чэмпіянат свету-2014 па хакеі.

**Расія.** У жывым эфіры па тэлебачанні многія з 22 тысяч гледачоў у спарткомплексе "Алімпійскі" асвісталі пасля бою прэм'ера Уладзіміра Пуціна і крычалі яму "Уходи !".

**Японія.** Самай высокай у свеце стала новая тэлевежа ў Токіа з забаўляльна-гандлёвым комплексам вышынёй 634 метры, для турыстаў стварылі 2 аглядавыя пляцоўкі на вышыні.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Для паляпшэння адносін Беларусі з Захадам, заявіў польскі пасол Лешак Шарэпка, дэмакратычны свет і ЕС выставілі беларускаму кіраўніцтву мінімальныя патрабаванні.

**Шклоў.** На зайздрасць іншым АСБ "Беларусбанк" толькі за апошнія 6 гадоў уклаў у свой падшэфны саўгас "Гарадзец" 68 млрд. рублёў, ім крыху кіраваў у БССР А. Лукашэнка.

**Масюкоўшчына.** 41-гадовы мужчына атрымаў раненні ў гаражным кааператыве сталіцы, дзе выбух разбурыў 3 гаражы, пашкодзіў асколкамі бетону 6 легкавых аўтамабіляў.

**Мінск.** З мэтай скарачэння вывазу нафтапрадуктаў з Беларусі ўрад РБ увёў абмежаванні на выезд за мяжу – адзін раз у 8 дзён (было 5), за выключэннем камандзіровак.

**Брэст.** Абласны суд пакараў 19 гадамі турмы 36-гадовага бамжа, які вясной забіў 55-гадовага брэстчаніна, які пашкадаваў злачынцу і пусціў яго часова пажыць у доме.

**Гродна.** На "Беларусьфільме" пацвердзілі, што здымаць працяг фільма "Белыя росы", як і 28 гадоў назад, будуць у прыгарадзе, галоўную ролю сыграе зноў акцёр Генадзь Гарбук.

**Мінск.** Лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч заявіў, што ўлада канчаткова губляе кантроль над сітуацыяй у беларускай эканоміцы і будзе яшчэ горш.

**Мар'іна Горка.** Адразу 100 тон сыравіны згарэла на пажары ў райцэнтры ў філіяле Валожынскага льнозавода, пажарныя выратавалі 200 тон трасты, людзі не пацярпелі.

**Гомель.** Мясцовага мастака Паўла Церашкаўца прызналі найлепшым фатографам свету па выніках штогадовага конкурсу работ для амерыканскага часопіса National Geographic.

**Мазыр.** Падчас канфлікту і бойкі з-за дзяўчыны ля ігральнага клуба загінулі 2 мясцовыя жыхары ва ўзросце 27 і 48 гадоў, пазней у бальніцы памёр паранены 24-гадовы мазыранін.

**Мінск.** Касір ЦУМа 40 хвілін пералічвала прынесеныя студэнтамі 6 кг грошай з купюр 10 і 20 рублёў, за якія яны купілі на 90 тысяч бутэльку шампанскага, піва і крыху ежы.

**Нясвіж.** У мясцовым Палаца-паркавым комплексе падрыхтавалі да здачы ў эксплуатацыю яшчэ 27 залаў пасля рэканструкцыі, з'явіліся новыя рэстарацыі і сувенірныя крамы.

**Карэлічы.** Падчас пажару на прыватнай свінаферме ў вёсцы Валокі ў дыме задыхнуліся 359 свіней з 2200 галоў, агонь пашкодзіў дах і перакрыццё будынка 2007 года пабудовы.

**Гродна.** Жонка карэспандэнта польскай "Газеты Выборчай" Андрэя Пачобута атрымала ў Варшаве за мужа прысуджаную яму найпрэстыжнейшую журналісцкую ўзнагароду.

**Пінск.** Да 3-х гадоў зняволення пагражае вучню 9-га класа, які абрабаваў пенсіянера і забраў у старога дакументы, 102 долары, 20 грыўняў і 900 тысяч рублёў у барсетцы.

## 3 снежня чарговае павышэнне рознічных цэн на паліва ў сярэднім на 10%



■ **Дзмітрый Уласаў, БелаПАН**

**Канцэрн "Белнафтахім" афіцыйна аб'явіў пра чарговае, 11-е з пачатку 2011 года, павышэнне адпускных і рознічных цэн на аўтамабільнае паліва. 3 снежня цэны павялічыліся ў сярэднім на 10%.**

Паводле інфармацыі канцэрна, кошт бензіну Нармаль-80 складае 5.400 рублёў за літр (+500, ці 10,2%), Аі-92 — 5.700 (+550, ці 10,7%), Аі-95 — 6.100 (+550, ці 9,9%), дызпаліва — 6.300 (+550, ці 9,6%), дызпаліва "Арктыка" — 7.100 (+650, ці 10,1%).

Цэны павялічаны "з мэтай паэтапнага збліжэння цэн на тавары ў краінах Мытнага саюза і павышэння эфектыўнасці працы беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў", пры гэтым "дзейныя рознічныя цэны на нафтапрадукты (з улікам павелічэння) застаюцца ніжэйшымі за ўзровень аналагічных цэн у Расійскай Федэрацыі на 20—30%".

Раней кошт паліва павышаўся 3 сакавіка (у сярэднім на 5%), 31 сакавіка (на 10%), 24 мая (на 20%), 7 чэрвеня (на 30%), 21 ліпеня (на 3%), 20 жніўня (на 3%), 14 верасня (на 3%), 1 кастрычніка (на 5%), 16 кастрычніка (бензін — на 3%, дызпаліва — на 5%) і 10 лістапада (бензін — на 3,5%, дызпаліва — на 7%). 9 чэрвеня па патрабаванні Аляксандра Лукашэнкі, якое прагучала на наступны дзень пасля масавай акцыі мінскіх аўтамабілістаў "Стопбензін", цэны былі зніжаны на 13—22%.

10 лістапада цэны былі павялічаны "ў сувязі з дэвальвацыяй беларускага рубля ў мэтах памяншэння страт нафтаперапрацоўчых заводаў пры рэалізацыі аўтамабільнага паліва на ўнутраным рынку і зніжэнні яго спекулятыўнага вывазу за межы краіны з прычыны значнага дыспарытэту цэн на аўтамабільнае паліва ў Беларусі і суседніх дзяржавах".

З пачатку года Нармаль-80 падаражэў у 2,4 разу (было 2.250 рублёў), Аі-92 — у 1,99 разу (2.870), Аі-95 — у 1,88 разу (3.240), дызпаліва — у 2,44 разу (2.580).

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Сярод больш тысячы праектаў на Беларускім інавацыйным тыдні ў Мінску лепшай прызналі распрацоўку тэст-сістэм лячэння прафесара медуніверсітэта В. Сямёнава

**Орша.** Па рашэнні ўрада на мясцовы мясакансервавы камбінат па графіку пачалі пастаўляць мяса 4 вобласці краіны, гэта вырашыла праблему з дзіцячымі кансервамі ў РБ.

**Полацк.** У мясцовым каледжы лясной гаспадаркі прайшлі ўрачыстасці з нагоды 90-годдзя навучальнай установы, адкуль выйшлі шэраг міністраў, вучоных і грамадскіх дзеячаў.

**Глыбокае.** Мосарскі льнозавод перад тым, як стаць дзеючым філіялам Пліскага льнозавода, заняў 2-е месца ў Віцебскай вобласці па ўраджайнасці льновалакна.

**Віцебск.** У пачатку лістапада тэлезавод "Віцязь" і сталічны "Гарызонт" мелі на складах 44 тысячы сваіх выпушчаных тэлевізараў (136 % ад сярэднямесячнай вытворчасці).

**Дуброўна.** Падчас прайшоўшага ў райцэнтры інвестфоруму расійска-беларуская фірма пагадзілася ўзвесці на 608-м км трасы Масква-Мінск аб'ект прыдарожнага сэрвісу.

**Шуміліна.** У выніку лабавога сутыкнення дзвюх іншамарак раніцай ля вёскі Пушча загінулі на месцы ДТЗ 46-гадовы кіроўца-віцяблянін і 52-гадовы вадзіцель з Полацка.

**Браслаў.** Галоўную ролю ў расійскім фільме "Охотник" выканаў начальнік аддзела нацпарка "Браслаўскія азёры" Міхаіл Брасковіч і стаў новай беларускай кіназоркай.

**Орша.** На базе былой чыгуначнай бальніцы адкрыўся начлежны дом са сталовай, разлічаны на 25 чалавек, у горадзе афіцыйна зарэгістравана 15 бамжоў.

**Шаркоўшчына.** З прымяненнем грубай сілы супрацоўнікі ДАІ ля дома пажылой работніцы магазіна № 1 запхнулі ў сваю машыну жанчыну без флікера, завезлі ў РАУС.

**Паставы.** У раёне на працягу месяца аб'явілі дабрачынную акцыю "Падзяліся цяплом душы сваёй", бо 1496 дзяцей знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала 30-гадовага кіраўніка адной з буйных арганізацый, які, злоўжываючы службовым становішчам, скраў будматэрыялаў на суму звыш 40 млн. руб.

**Глыбокае.** Архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій асвяціў у вёсцы Дзеркаўшчына новую царкву св. Панцеляймона, 17-ю па ліку ў раёне, яе ўзвялі праваслаўныя разам з каталікамі.

**Орша.** Па пошце ў гараддзел адукацыі прыйшло паведамленне аб тым, што будынак быццам "замініраваны", жартаўніку-49-му беспрацоўнаму – пагражае 5 гадоў турмы.

**Браслаў.** Латвійская кампанія-інвестар падрыхтавала праектную дакументацыю на ўзвядзенне ля вёскі Лазенкі санаторыя, шукае $ на будоўлю.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# СТОП, СНІД!

■ Дз.А. Марціновіч, псіхолаг АСАіР
тэлефон даверу 2-27-25 (ананімна і канфідэнцыяльна)

**Больш за 20 гадоў назад у свеце пачалася эпідэмія самага страшнага і незразумелага віруснага захворвання сучаснасці - СНІДу. Яго заразнасць, імклівае распаўсюджванне і невылечнасць надалі захворванню славу «чумы XX стагоддзя».**

5 чэрвеня 1981 года амерыканскі навуковец з Цэнтра па кантролю над захворваннямі Майкл Готліб упершыню апісаў новае захворванне, якое праходзіць з глыбокай паразай імуннай сістэмы. Старанны аналіз прывёў амерыканскіх даследнікаў да высновы пра наяўнасць невядомага раней сіндрому, які атрымаў у 1982 годзе назву сіндром набытага імунадэфіцыту (СНІД).

Імунны дэфіцыт (зніжэнне імунітэту), ад якога пакутавалі захварэлыя на СНІД, раней сустракаўся толькі ў хворых нованароджаных дзяцей. Лекары ўстанавілі, што ў гэтых хворых зніжэнне імунітэту не было прыроджаным, а набыта ў дарослым узросце.

Неабходна падкрэсліць, што ВІЧ і СНІД не сінонімы. СНІД - паняцце шырэйшае і азначае дэфіцыт імунітэту. Такі стан можа паўстаць у выніку самых розных прычын: пры хранічных захворваннях, уздзеянні прамянёвай энергіі, у дзяцей з дэфектамі імуннай сістэмы і ў хворых сталага ўзросту. ВІЧ-інфекцыя - новае інфекцыйнае захворванне, якое звалася да адкрыцця яе ўзбуджальніка як сіндром набытага імунадэфіцыту (СНІД). ВІЧ-інфекцыя - прагрэсіўнае інфекцыйнае захворванне, з кровакантактным механізмам заражэння, якое характарызуецца спецыфічнай паразай імуннай сістэмы з развіццём цяжкага імунадэфіцыту, які выяўляецца другаснымі інфекцыямі, злаякаснымі наватворамі і аўтаімуннымі працэсамі.

Крыніцай ВІЧ-інфекцыі з'яўляецца хворы на СНІД чалавек ці бессімптомны вірусаносьбіт. Асноўны механізм перадачы інфекцыі - кровакантактны. Хвароба перадаецца пры палавых кантактах, ад інфіцыраванай маці да дзіцяці ў перыяд цяжарнасці праз плацэнту, падчас родаў, пры грудным гадаванні ад маці да дзіцяці; праз брытвеныя прыборы і іншыя колюча-рэжучыя прадметы, зубныя шчоткі і т. п. Эпідэміёлагі ВІЧ не дапускаюць існавання паветрана-кропельнага і фекальна-аральнага шляхоў перадачы, бо вылучэнне ВІЧ з макроцкем, мачой і калам вельмі малы, а таксама малы і лік успрымальных клетак у страўнікава-кішэчным тракце і дыхальных шляхах.

Вірус імунадэфіцыту можа існаваць у арганізме чалавека на працягу дзесяці - дванаццаці гадоў, ніяк сябе не выяўляючы. А на першасныя яго праявы шматлікія людзі не звяртаюць належнай увагі, прымаючы іх за сімптомы іншых, на першы погляд, не небяспечных захворванняў. Калі своечасова не пачаць працэс лячэння, настае канчатковая стадыя ВІЧ - СНІД.

Па стане на 1 красавіка 2011 года ў Беларусі афіцыйна пражывае 12 тысяч 47 чалавек з ВІЧ-інфекцыяй. У большасці выпадкаў носьбітамі віруса з'яўляюцца маладыя людзі ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў. Увогуле, у ліку хворых гэта ўзроставая група складае 63%. Па палавой прыкмеце носьбіты ВІЧ - часцей за ўсё мужчыны. Іх колькасць роўна 61,6%.

## Заставайцеся людзьмі!

### ВІЧ не перадаецца праз дружбу!



Я б хацеў пажадаць кожнаму з вас не разменьваць сваё жыццё на дробязі і на неабдуманае баўленне часу, бо ў жыцці столькі ўсяго цікавага, што вечнасці не хопіць усё паспець зрабіць, а галоўнае, гэта ў нашых сілах – паставіць бар'ер на шляху «хваробы XXI стагоддзя», сфармаваўшы маральныя каштоўнасці.

# Расіяне забраніравалі ўвесь гатэль у Мірскім замку з Новага года аж да 10 студзеня

## На Новы год адпачыць у замку не ўдасца

**«Сустрэча Новага года ў старажытным замку Еўропы!». Такія аб'явы часта трапляюцца на сайтах беларускіх турфірмаў. За 350—400 еўра можна адправіцца ў вандроўку па Польшчы, Літве ці Чэхіі. А што з адпачынкам у Беларусі?**

У Мірскім замку, як вядома, працуе гасцініца на 35 месцаў.

Аднак зняць нумар аказалася ўжо немагчыма.

«Усе месцы да 10 студзеня забраніравалі расіяне яшчэ ў верасні, — удакладнілі ў замку. — Для іх распрацавана спецыяльная праграма».

Спаслаўшыся на камерцыйную тайну, супрацоўнікі вырашылі не казаць, колькі трэба заплаціць за нумар у гатэлі на навагоднія святы.

У звычайныя дні двухпакаёвы люкс каштуе 600 тысяч, нумар «камфорт» — 450 тысяч рублёў.

*Onliner.by*

# Органы пракуратуры Віцебскай вобласці заявілі ў гаспадарчыя суды 315 іскаў аб абароне інтарэсаў дзяржавы і гаспадарчых суб'ектаў

**Органамі пракуратуры Віцебскай вобласці ў гаспадарчыя суды рэспублікі прад'яўлена 315 іскаў і заяў аб распачынанні загаднай вытворчасці на агульную суму амаль 26 мільярдаў рублёў. У інтарэсах арганізацый дзяржаўнай формы ўласнасці — 90 іскаў (заяў) на агульную суму больш як 7,5 мільярда рублёў, прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу прыкладна 5 мільярдаў рублёў. Пра гэта паведамілі ў Генеральнай пракуратуры.**

Так, у верасні гэтага года пракурорам Лепельскага раёна прад'яўлены іск на карысць Лепельскага лясгаса аб спагнанні з замежнага прыватнага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства «Раўбел» доўгу ў 15,8 мільёна рублёў, які ўзнік у выніку неналежнага выканання дагавора куплі-продажу драўніны. Іск пракурора задаволены судом у поўным аб'ёме.

Пракурорам Віцебскага раёна ў сувязі з неналежным выкананнем сялянскай (фермерскай) гаспадаркай «Дуброва» абавязацельстваў па аплаце атрыманага ў СВК «Ольгаўскае» элітнага насення азімай пшаніцы накіравана ў гаспадарчы суд Віцебскай вобласці заява аб спагнанні з даўжніка на карысць сельскагаспадарчага кааператыва доўгу ў 21,9 мільёна рублёў. Іскавыя патрабаванні судом задаволеныя.

Пракурорамі аказваецца дапамога прадпрыемствам недзяржаўнай формы ўласнасці. На іх карысць прад'яўлена 85 іскаў (заяў) на агульную суму прыкладна 6,5 мільярда рублёў.

Толькі на падставе судовых пастаноў, вынесеных паісках (заявах) пракурораў, прад'яўленых у першым паўгоддзі 2011 года, гаспадарчым судом вобласці выдадзена 187 выканаўчых дакументаў аб спагнанні дзяржаўнай пошліны на агульную суму больш як 200 мільёнаў рублёў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

# На Браслаўшчыне пабудуюць VIP-гасцініцы

**12 інвестыцыйных праектаў, якія рэалізуюцца на Браслаўшчыне, маюць непасрэдныя адносіны да развіцця турыстычнага патэнцыялу рэгіёна.**

Латышская кампанія AKVA NMP мае намер на ўездзе ў Браслаў ля самага берага возера Дрывяты ўзвесці гасцініцу для VIP-персон. Ужо падпісаны інвестыцыйная дамова з Віцебскай вобласцю, пададзены дакументы на вылучэнне зямельнага ўчастка. Што з сябе будзе ўяўляць супергасцініца, пакуль казаць рана.

На той жа стадыі распрацоўкі знаходзіцца другі праект: будаўніцтва шматфункцыянальнага цэнтра. Плануецца, што ён будзе ўключаць у сябе магазін, 3D-кінатэатр, дзіцячую кавярню і кавярню з тэрасай.

Яшчэ адна цікавая ідэя знаходзіцца ў распрацоўцы ў мінскай бізнесвумен, якая ўзначальвае ПГУП «Нікапрэстыж». Жанчына жадае пабудаваць гасцініцу ў межах горада. Яна набыла палову будынка ў райпа і вядзе перамовы пра куплю другой часткі са Знешэканамбанкам. У перспектыве над наяўным двухпавярховым аб'ектам з'явіцца празрысты купал-рэстаран, з вокнаў якога будзе адкрывацца выдатны відарыс на два возеры і наваколлі горада.

# У Беларусі кураць больш за 20% 15-гадовых падлеткаў

**У Беларусі кураць больш за 20% 15-гадовых, сведчаць звесткі апытання цэнтраў, дружалюбных падлеткам. Пра гэта паведаміла галоўны педыятр Міністэрства аховы здароўя Алена Нявера 30 лістапада на пасяджэнні круглага стала ў Мінску.**

Паводле яе слоў, найбольш распаўсюджана курэнне сярод дзяўчат-падлеткаў. У 15 гадоў у Беларусі кураць 23,5% дзяўчат, сярод хлопчыкаў курцоў «крыху менш». Курэнне «з'яўляецца найбольш распаўсюджаным паказчыкам рызыкоўных паводзін падлеткаў» у Беларусі. Па ліку падлеткаў, якія кураць, Беларусь значна апярэджвае іншыя еўрапейскія краіны, адзначыла спецыяліст.

Як паведаміла Нявера, у Беларусі курыць кожны чацвёрты жыхар ад 18 да 31 года, прычым дзяўчат-курцоў больш, чым юнакоў. Для параўнання: у ЗША кураць 5-6%, у краінах ЕС — 8% маладых людзей.

Спецыяліст падкрэсліла, што ў Беларусі сярод маладых людзей захоўваецца мода на курэнне, тады як у ЗША і Еўропе яна даўно адышла. Для моладзі курэнне асабліва небяспечна, бо яно негатыўна адбіваецца на рэпрадуктыўным здароўі: выношванні цяжарнасці для жанчын і колькасці спермы для мужчын.



Як лічыць спецыяліст, неабходна аб'яднаць намаганні для прафілактыкі гэтай згубнай звычкі. Прычым асабліва важна ўкараняць меры прафілактыкі курэння сярод тых, хто яшчэ не спрабаваў курыць. Гэта забарона на продаж цыгарэт непаўналетнім, на курэнне ў грамадскіх месцах і г.д.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# Лукашэнка лічыць неабходным зрабіць стаўку на актыўнае развіццё Мінскай і Віцебскай абласцей

**Аляксандр Лукашэнка лічыць неабходным найбліжэйшым часам зрабіць стаўку на актыўнае развіццё Мінскай і Віцебскай абласцей, за кошт якіх плануецца атрымаць значную прыбаўку ў эканоміцы краіны ў цэлым. Пра гэта кіраўнік дзяржавы заявіў 5 снежня, прымаючы з дакладам старшыню Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Барыса Батуру, паведамляе прэс-служба Прэзідэнта.**

«Мы будзем дапамагаць Мінскай вобласці ў прыярытэтным парадку, таму што адгэтуль мы павінны атрымаць дадатковыя аб'ёмы сельскагаспадарчай і прамысловай прадукцыі, паслуг. Мы будзем акцэнт рабіць на Мінскую вобласць, не забываючыся, у другую чаргу, пра Віцебскую, каб краіну падняць за кошт гэтых дзвюх абласцей», — сказаў кіраўнік дзяржавы, адзначыўшы, што астатнія рэгіёны па розных прычынах у сваім развіцці пайшлі наперад.

Батура праінфармаваў Лукашэнку аб прыцягненні ў рэгіён інвестыцый, у тым ліку ў сельскую гаспадарку. Кіраўнік дзяржавы у чарговы раз падкрэсліў, што ў Беларусі, і Мінскай вобласці ў прыватнасці, дастаткова зямель, якія можна выкарыстоўваць пад інвестыцыйныя праекты, не выводзячы з сельгасабароту ворныя землі.

Барыс Батура таксама праінфармаваў аб тым, што Мінская вобласць сёлета выконвае асноўныя якасныя прагнозныя паказчыкі. Крыху меншымі ў параўнанні з прагнозам чакаюцца рост валавога рэгіянальнага прадукту (107% да ўзроўню 2010 года замест 109%) і вытворчасці прадукцыі ў сельскай гаспадарцы (105%). У рэгіёне за год будзе ўведзена прыкладна 1,1 млн. квадратных метраў жылля (згодна з прагнозам — 1,3 млн.).

У цэлым, паводле слоў губернатара, тэндэнцыі развіцця Мінскай вобласці станоўчыя, што дазваляе ў поўнай ступені выконваць абавязацельствы дзяржавы па сацыяльнай абароне насельніцтва.

Батура праінфармаваў кіраўніка дзяржавы аб пачатку работ па рэалізацыі яго даручэння, у адпаведнасці з якім у наступным годзе ў кожнай гаспадарцы краіны павінна быць мадэрнізавана адна ферма пад сучасныя тэхналогіі вытворчасці. «Думаю, гэта пасільная задача. Зараз ва ўрадзе прапануюць некаторыя формы падтрымкі ў выглядзе шыферу, цэменту, дрэва. У нас усё гэта ёсць. Мы значна можам патанніць, — адзначыў Лукашэнка. — Але ўсюды павінны быць пэўныя аб'ёмы. Усё будзе пад жалезным кантролем, каб тут не было ніякага крадзяжу, адцягнення на іншыя мэты».

Паводле слоў Батуры, зараз інтэнсіўна распрацоўваецца дакументацыя, і асноўная ўвага працы па мадэрнізацыі ферм будзе нададзена ў зімовы перыяд, калі людзі меней занятыя ў сельскай гаспадарцы.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН*

# Глыбачане прынялі ўдзел у конкурсе "Народны журналіст"

■ Марыя Лугаўская

**4 снежня ў Мінску адбылося ўзнагароджанне пераможцаў першых двух тураў конкурсу "Народны журналіст", куды былі запрошаныя і ўдзельнікі з Глыбокага.**

Паводле слоў аднаго з яго ініцыятараў Вінцука Вячоркі, ідэя конкурсу палягала ў тым, каб спалучыць здольнасць людзей казаць, пісаць і фіксаваць бачанае з уменнем вызначыць балючыя мясцовыя праблемы і талентам натхніць іншых, каб разам дамагацца вырашэння той ці іншай мясцовай праблемы. Прычым гаворка ідзе пра праблемы, якія не будуць асвятляць дзяржаўныя друкаваныя і электронныя СМІ, падкрэсліў Вячорка.

У конкурсе прынялі ўдзел 144 журналісты, у тым ліку двое глыбачан: Яўген Самсонаў і Таццяна Смоткіна. Пераможцамі тэкставага туру конкурсу сталі Мікалай Бусел з Гомельскай вобласці, які схаваўся пад псеўданімам Мікалай з роду Кузьмінцоў з артыкулам "Мой родны кут! Які ты неперспектыўны…", а таксама мінчанка Валянціна Шалейнікава - "У пошуках праўды", пераможцамі мультымедыйнага туру конкурсу сталі студэнтка III курсу гістфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Таццяна Ганчарэнка за відэаролік "Пра родную мову" і бард Юры Несцярэнка з гарадскога пасёлка Бялынічы (Магілёўская вобласць) за фотарэпартаж "Я ў доміку, альбо Люкі нашай рэчаіснасці".



Член журы - Валерый Мазынскі

Сябра журы конкурсу, тэатральны рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерый Мазынскі выказаў задавальненне, што ў конкурсе прыняло ўдзел шмат моладзі. "І гэта вельмі важна, бо вы вучыцеся рабіць выбар справы, несці за яе адказнасць і праяўляць салідарнасць з іншымі людзьмі", — сказаў Мазынскі. Ён назваў удзельнікаў конкурсу "людзьмі з верай і адвагай, якія дзеля іншых узялі удар на сябе і не пабаяліся засвяціцца". "Ваш аўтарытэт і ваша сіла будуць узрастаць, калі людзі будуць бачыць вас і вашы справы", — сказаў рэжысёр.

Паводле словаў Вячоркі, найбольш цікавыя працы, дасланыя на конкурс, будуць апублікаваныя на сайце narodny.by. Ён паведаміў, што праект "Народны журналіст" будзе прадоўжаны.

Для ўдзельнікаў вечарыны адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел бардблюзмэн Юры Несцярэнка, студэнтка І курса аддзялення "Рэжысура тэлебачання" Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, бард Паліна Паланейчык і сталічны панк-рок-гурт "Амарока".

І хоць нашы землякі не ўвайшлі ў лік пераможцаў, спадзяёмся, што ў іх усё наперадзе.

## Глеб Лабадзенка заклікае падзякаваць глыбоцкаму МКК за беларускую мову

■ Алесь Сьнег

**Вядомы блогер і журналіст Глеб Лабадзенка прысвяціў адзін са сваіх допісаў прадукцыі ААТ «Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат».**

«Сябры, дазвольце порцыю бясплатнай рэкламы. Набыў у краме канцэнтраванае малако глыбоцкай вытворчасці, а на ім напісана па-беларуску і толькі па-беларуску!

Дасціпныя філолагі, вядома, знойдуць *чай, крышку* ды іншую трасу. Але заклікаю не накідвацца на вытворцу за гэта, бо ці шмат вы бачылі тавараў, на якіх напісана толькі па-беларуску? Калі і паправіць іх – то мякка і акуратна.

А ўвогуле – заклікаю не паленавацца і напісаць падзяку. Бо як прыемна – не сварыцца (чаму не пішаце па-беларуску?!), а дзякаваць», – піша Глеб Лабадзенка.




## Гомельскі браканьер выпадкова застрэліў на паляванні сябра

**32-гадовы жыхар Гомеля выпадкова застрэліў на паляванні сябра.**

Справа за прычыненне смерці па неасцярожнасці (арт. 144 Крымінальнага кодэкса) у дачыненні да яго распачата 2 снежня пракуратурай Лоеўскага раёна.

Як паведамілі БелаПАН у пракуратуры, позна вечарам 2 снежня мужчына паляваў на дзікоў на кукурузным полі ў Лоеўскім раёне. Гамяльчанін выкарыстоўваў сваю зарэгістраваную стрэльбу, але паляванне было незаконным.

У цэмры мужчына выстраліў і выпадкова трапіў у свайго 24-гадовага сябра, які ўдзельнічаў у паляванні ў якасці загоншчыка. Малады чалавек, таксама жыхар Гомеля, ад атрыманых ран памёр на месцы.

Браканьер сам патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў пра здарэнне. Ён затрыманы, вядзецца следства.

*Алена Германовіч, БелаПАН.*

## Урад прапаноўвае рэзка скараціць колькасць катэгорый грамадзян, якія будуюць жыллё з дзяржпадтрымкай

**Урад Беларусі прапаноўвае рэзка скараціць колькасць катэгорый грамадзян, якія будуюць жыллё з дзяржаўнай падтрымкай. Пра гэта заявіў віцэ-прэм'ер Сяргей Румас, адказваючы на пытанні парламентарыяў 30 лістапада.**

Паводле яго слоў, сёння фінансавых рэсурсаў для завяршэння ўсіх будоўляў недастаткова. У сувязі з гэтым асноўная ўвага сканцэнтравана на дамах з высокай ступенню гатоўнасці.



«У Мінбудархітэктуры ёсць падрабязны пералік такіх дамоў, і ўсе неабходныя сродкі для завяршэння будаўніцтва будуць выдзелены», — сказаў Румас.

Ён падкрэсліў, што ў наступным годзе аб'ём сродкаў, якія выдзяляюцца на льготнае будаўніцтва, будзе скарочаны.

*Андрэй Кажамякін, БелаПАН*

# Пагражалі інспектарам сваімі «магутнымі сувязямі»

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ахо-вы жывёльнага і расліннага свету.*

Субота, выходны дзень, асноўная маса грамадзян адпачывае, але толькі не супрацоўнікі міжраённай інспекцыі. Як паказвае аналіз працы, асноўная колькасць правапарушэнняў природаахоўнага заканадаўства здзяйсняецца менавіта ў перадвыходныя і выходныя дні, і гэта не дзіўна. Глыбоцкі і Пастаўскі раёны валодаюць значнымі воднымі і ляснымі рэсурсамі, што прыцягвае на нашы вадаёмы і ў лясы шмат грамадзян, рыбакоў-аматараў, і, вядома ж, браканьераў. Таму супрацоўнікі міжрайінспекцыі сумесна з іншымі прыродаахоўнымі і праваахоўнымі органамі ў такія дні працуюць ва ўзмоцненым рэжыме.

3 снежня 2011 года. Стаіць сонечны дзень, добрае надвор'е. Інспектары Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету з 6 раніцы знаходзяцца ў рэйдзе на тэрыторыі Пастаўскага раёна. Праверылі некалькі груп паляўнічых – усё ў парадку, грамадзяне палююць законна. Каля 13 гадзін рэйдавая група пад'ехала да возера Вялікія Швакшты. Гэта вялікі прыгожы вадаём, у якім шмат рознай рыбы. Тым часам інспектары заўважаюць недалёка ад берага, у лесе, аўтамашыну і двух маладых людзей. Вырашылі праверыць, што два хлопцы робяць у такім аддаленым месцы. Маладыя людзі, нічога не падазраючы, апранялі рыбалоўныя касцюмы, а з якой мэтай, стала ясна інспектарам, калі зрабілі дагляд салона аўтамашыны. Восем браканьерскіх сетак і два сетныя экраны знаходзіліся ў салоне і былі гатовыя для ўсталёўкі ў возера, але браканьеры не паспелі здзейсніць сваю чорную справу. Хлопцы аказаліся жыхарамі Мядзельскага раёна і напачатку сцвярджалі, што апынуліся на возеры выпадкова: проста ехалі ў госці да родных і заехалі адпачыць, затым спрабавалі пагражаць інспектарам сваімі «магутнымі сувязямі». Калі і гэта не падзейнічала, распавялі ўсю праўду і сталі прасіць аб літасці, але толькі раённы суд дасць адзнаку іх дзеянням. За няўдалую рыбалку парушальнікаў чакае штраф у памеры ад 10 да 50 базавых велічынь.

Далей рэйдавая група накіравалася бліжэй да мяжы, дзе недалёка ад в. Навасёлкі Пастаўскага раёна ў лесе сустрэла чалавека са стрэльбай. Усё быццам бы ў парадку, ёсць паляўнічая пуцёўка на зайца, аднак досвед і інтуіцыя падказвае інспектарам, што штосьці не так. Правяраюць, чым заряджана стрэльба, аказалася – кулямі, а паляванне з кулямі і карцечай на зайца забаронена, два паляўнічыя сабакі таксама без дакументаў. Грамадзянін К., мясцовы жыхар, тлумачыць, што кулявыя патроны, зараджаныя ў стрэльбу, ён пераблытаў са шротавымі патронамі, а дакументы на сабак знаходзяцца ў г. Віцебску. Калі прытрымлівацца логікі паляўнічага, то і кабана можна пераблытаць з зайцам, ну а калі няма дакументаў на сабак, дык і браць іх на паляванне не трэба. Закон ёсць закон. Парушальніка чакае суровае пакаранне: штраф ад 10 да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй зброі ці без канфіскацыі і пазбаўленне права палявання.

Гэта толькі адзін дзень працы інспектараў. Можа, камусьці парушэнні здадуцца дробнымі, але два прыведзеныя прыклады паводле дзейснага заканадаўства ёсць самае сапраўднае браканьерства, а спыненне фактаў браканьерства – прамы абавязак інспектараў. На жаль, не заўсёды атрымліваецца затрымаць браканьераў, але, як кажуць у народзе, «колькі вяровачцы не віцца, а канец усё адно будзе».

Велізарная падзяка грамадзянам, якія аказваюць дапамогу міжраённай інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства можна паведаміць па тэлефонах: 8-(02156) 2-86-70 «гарачая лінія», маб. т. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).

## У Беларусі ўводзіцца забарона на вываз неапрацаваных шкур буйной рагатай жывёлы

**У Беларусі ўводзіцца забарона на вываз неапрацаваных шкур буйной рагатай жывёлы. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў Беларусі № 1612 ад 30 лістапада 2011 года, паведаміла прэс-служба ўрада.**

Забарона будзе дзейнічаць з 5 снежня гэтага года па 5 чэрвеня 2012г.. Забарона не распаўсюджваецца на вываз неапрацаваных шкур буйной рагатай жывёлы ў краіны Мытнага саюзу, а дзейнічае толькі адносна трэціх краін. У адпаведнасці з пастановай намечана ўнесці на разгляд Камісіі Мытнага саюзу прапанову аб прымяненні аналагічных мер іншымі дзяржавамі — членамі МС.

Як пракаментавалі ва ўрадзе, каля 30% рэсурсаў айчыннай скурсыравіны ідзе на экспарт, пераважна ў краіны Еўропы. У выніку скураныя прадпрыемствы легпрама недаатрымліваюць сыравіну. «Часовая абмежавальная мера па вывазе неапрацаваных шкур буйной рагатай жывёлы дазволіць павялічыць загрузку гарбарных прадпрыемстваў Беларусі, павысіць эфектыўнасць іх гаспадарання», — гаворыцца ў паведамленні.

*Марына Носава, БелаПАН*

## МНС інфармуе
**на 06.12.2011 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1255;
Гібель людзей – 184 , з іх 3 дзіцяці;
Урон – 4802,5 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 62;
Гібель людзей – 10, з іх дзяцей няма;
Урон – 573 170 000 руб.

## Віншаванкі

**Валянціну Паўлаўну Хрысталовіч**
**З нагоды дня народзін**

С днем рожденья поздравляем!
К поздравленью прибавляем:
Пуд здоровья, тонну счастья,
Смеха – от души и часто,
Дружбы гору, денег море...
Что еще у нас осталось?
Вроде всё. А в подтвержденье
Еще разик – с днем рожденья!



***Калектыў УП ЖКГ Глыбоцкага раёна***

# Сапрапель па сваіх якасцях канкурыруе з жэньшэнем і муміё. Толькі ён... нікому не патрэбны?

■ Аляксандр ПУКШАНСКІ

**Аказваецца, на Віцебшчыне зараз не здабываюць сапрапель, на якім пры добрым бізнес-падыходзе можна літаральна азалаціцца.**

Магчымасці выкарыстання сапрапелю вельмі шырокія. У сельскай гаспадарцы сапрапелевыя прадукты прымяняюцца ў якасці ўгнаенняў, кармавых дабавак і біястымулятараў. Сапрапелевыя сарбенты выкарыстоўваюцца для збору нафтавых прадуктаў з паверхні вады і рэкультывацыі глеб. Выкарыстоўваецца сапрапель і пры вытворчасці будаўнічых матэрыялаў. Багаты хімічны састаў і ўнікальныя ўласцівасці сапрапелю робяць яго выдатнай сыравінай для фармакалагічнай прамысловасці і касметалогіі.

Цікава, дарэчы, што менавіта ў сегментах лекавага і касметычнага рынкаў цэны на сапрапелевую прадукцыю растуць найбольш высокімі тэмпамі.

### Медыкі будуць выкарыстоўваць сапрапель

Як расказала Жанна Алейнікава, начальнік аддзела Віцебскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, 70 працэнтаў усіх разведаных беларускіх запасаў сапрапелю — у Віцебскай вобласці. І гэта тлумачыцца тым, што ў Прыдзвінскім краі шмат водных аб'ектаў і тарфяных радовішчаў. А сапрапель звычайна адкладваецца на гэтых участках. У цэлым па краіне сапрапелевыя запасы на ўзроўні чатырох мільярдаў кубічных метраў. Сёння праводзіцца канкрэтная работа па аднаўленні здабычы сапрапелю. У прыватнасці, у Дубровенскім раёне па ініцыятыве кіраўніцтва раённай бальніцы праводзіцца комплекс даследаванняў па разведцы і атэстацыі лячэбнай гразі ў мясцовых азёрах. Рэспубліканскі інстытут прыродакарыстання праводзіць пошук перспектыўных азёрных радовішчаў сапрапелевай гразі. **Яна спатрэбіцца і для аздараўленчага комплексу «Пліса» ў Глыбоцкім раёне,** які задумана зрабіць на ўзроўні атэля ў «пяць зорак». Праводзяцца даследаванні і на возеры Чорнае ў Браслаўскім раёне, а таксама на возеры ў Пастаўскім раёне з пункту гледжання выкарыстання сапрапелевай гразі ў лячэбных мэтах. Усяго ў Віцебскай вобласці 78 азёр, на якіх можна здабываць сапрапель.

На Віцебшчыне ўлады даўно ўжо гатовы да прыходу інвестараў. Інвестыцыі — гэта новыя рабочыя месцы, падаткі.

### І мужыкам дапамагае!

Гэта цікава. Слова «сапрапель» у перакладзе з грэчаскай мовы азначае «гнілы глей». У аснове сапрапелю — гаючая рэліктавая грязь, якой больш за 20 тысяч гадоў. Незвычайнай здольнасцю валодае і вада ў некаторых азёрах: яна не псуецца, і ў ёй не назіраюцца працэсы гніення, бо зусім адсутнічаюць хваробатворныя бактэрыі. Вада з возера ў выніку можа валодаць выразным абеззаражвальным дзеяннем.

Арганічная частка сапрапелю ўяўляе сабой комплекс раслінных і жывёльных рэштак і прадуктаў іх распаду. Менавіта таму сапрапель па сваёй актыўнасці канкуруе з легендарнымі жэньшэнем і муміё. І, кажуць, дапамагае мужчынам, у якіх узніклі праблемы з патэнцыяй.

Дзякуючы сваім унікальным уласцівасцям, сапрапель знайшоў шырокае прымяненне ў касметалогіі: маскі, абгортванні, аплікацыі, кампрэсы і ванны. Ёсць нават серыя «элітнай» прадукцыі пад назвай «Залаты сапрапель» і іншыя.

Прафілактычныя і аздараўленчыя працэдуры з сапрапелевай граззю рэкамендуецца праводзіць вечарам: яны здымаюць раздражненне скуры, супакойваюць нервовую сістэму і паляпшаюць сон.



Непасрэдна перад працэдурай сапрапель неабходна разагрэць на вадзяной лазні да тэмпературы 38–42 градусаў. Для прыгатавання карысных прыродных «лекаў» на літровы слоік з вадой трэба дзве трэці сапрапелю. Для атрымання ўстойлівага касметычнага эфекту неабходна правесці курс працэдур. Медыкі папярэджваюць, што не дапускаецца рабіць маскі адначасова на твар і цела, паколькі гэта зніжае эфектыўнасць працэдуры — дзеянне гразі заснавана на прыліве крыві ў пэўную зону. Пры правядзенні працэдур рэкамендуецца выкарыстоўваць толькі эмаляваны або шкляны посуд. Выкарыстанне металічнага посуду не дапускаецца. Для нанясення сапрапелю неабходна выкарыстоўваць драўляныя або пластмасавыя лыжкі-лапатачкі.

Сапрапелевыя гразі дзейнічаюць на арганізм вельмі мякка. Паляпшаюць кіслародны абмен, стымулююць функцыі вегетатыўнай нервовай сістэмы, узбагачаюць арганізм кальцыем, жалезам, магніем, бромам, ёдам, каліем, вітамінамі, амінакіслотамі. А яшчэ перашкаджаюць працэсу старэння, аднаўляюць імунітэт, узмацняюць ахоўныя ўласцівасці скурных пакроваў, выводзяць з арганізма шлакі, таксіны, цяжкія металы.

Між іншым, не выкідвайце выкарыстаны ў касметычных і іншых мэтах сапрапель. Ён можа знайсці і другаснае ўжыванне: для падкормкі хатніх раслін або на дачным участку.

*Звязда*

# ТВАРАМ НА ЗАХАД

**Уладзімір ШЫК**

*Працяг. Пачатак у №№ 40 (600) – 43 (603), 49 (609)*

Са зменай грамадскага ладу ў Польшчы цяпер не толькі вытворцам, але і звычайным людзям прадаставілі больш самастойнасці і права самім вырашаць, як жыць і развівацца нават на нізавым узроўні. Гэтыя пытанні не разглядаюцца ў Варшаве ці нават на ўзроўні ваяводстваў (абласцей), паколькі пачала дзейнічаць у глыбінцы даволі зладжаная сістэма мясцовага самакіравання. Па ўсёй краіне ў палякаў, напрыклад, дырэктары школ і іх намеснікі, як і рэктары ВНУ, іншых навучальных устаноў, не прызначаюцца, а абіраюцца на адкрытых публічных конкурсах.

Трэба адзначыць, як паведаміў экс-віцэ-стараста павета Элкскага Рышард Скавіньскі, што пасля 1991 года адбыліся значныя кадравыя змены і нават татальныя чысткі ў той жа сферы адукацыі. Ранейшы дырэктарскі корпус з ліку актыўных дзеячаў кампартыі і, як правіла, таемных памочнікаў спецслужб, ад кіраўніцтва быў адхілены. Праўда, польскія настаўнікі пры наяўнасці 30 гадоў педагагічнага стажу маюць права датэрмінова выйсці на няпоўную пенсію. А вось кіраўнікоў і віцэ-дырэктараў школ палякі выбіраюць па конкурсу.

Спецыяльная камісія, у якую ўваходзяць спецыялісты галіны, дэпутаты і абавязкова бацькі вучняў, прадстаўнікі грамадскасці, слухае праграмы кандыдатаў, задае прэтэндэнтам пытанні наконт бачання тых ці іншых праблем. Хто выйграе гэты адбор, атрымоўвае карт-бланш на кіраванне школай на працягу 5 гадоў. Пасля гэтага, калі справы ў канкрэтнай школе ідуць добра, гэта камісія можа аўтаматычна прадоўжыць тэрмін паўнамоцтваў дырэктара і не аб'яўляць новы конкурс. Пасля адбыцця двух тэрмінаў болей на пасадзе нельга знаходзіцца, але можна паспрабаваць свае сілы ў іншых школах альбо гімназіях, дзе могуць адкрыцца такія вакансіі.

За апошняе дзесяцігоддзе ў тым жа Элку ўсе школы (за іх адказвае гарадская гміна) змяніліся непазнавальна, паколькі там замянілі вокны на пластыкавыя, абнавілі кабінеты, дзверы, самі класы. Дзе не было, дабудавалі школьныя спартзалы. Мяне найбольш уразіла, што з дапамогай сродкаў ЕС школьныя стадыёны паўсюдна займелі газоны са штучным пакрыццём для гульняў у футбол і такія ж пляцоўкі для гульнявых відаў спорту. Лёгкаатлетычныя дарожкі таксама абнавіліся, сталі з сучасным пакрыццём.

Па еўрапейскіх стандартах гэтыя спартыўныя збудаванні школ акружаныя высокімі спецыяльнымі пластыкавымі сеткамі для бяспекі дзяцей і сучаснай сістэмай асвятлення. У цёплы час года па вечарах там шматлюдна. Польскае падрастаючае пакаленне з задавальненнем, асабліва падчас канікул, праводзіць на пляцоўках вольны час і гартуе сваё здароўе. Ды і ў сельскай мясцовасці з дапамогай гмін падставовыя школы-гімназіі на еўрапейскі манер. У кожнай больш-менш буйной польскай вёсцы цяпер ёсць свой утульны стадыён з дагледжаным футбольным полем, трыбунамі, табло і раздзявалкамі. Невыпадкова, што ў першынстве мясцовага павета ўдзельнічала сёлета 19 каманд.

Ды і ў самім горадзе Элку ёсць нават дзве футбольныя каманды "Plomien" і "Mazur", абедзве з пераменным поспехам гуляюць у 4-й лізе чэмпіянату Польшчы. Зноў-такі з фінансавай дапамогай еўрапейскіх структур у гэтым павятовым цэнтры капітальна рэканструявалі гарадскі, а пабудавалі другі ўжо раённы стадыён. Па сваім ўзроўні яны нагадваюць арэну ў Глыбокім, але маюць трыбуны з дахам, сучасныя сістэмы асвятлення, запасныя палі і значна лепшую інфраструктуру падтрыбунных памяшканняў.

Цікава, што ўваход на матч платны (3-4 злоты), і частка выручаных сродкаў ідзе на ганарар ігракам-аматарам. Калі раней лепшы мясцовы клуб гуляў у лізе рангам вышэй, яго вядучыя футбалісты мелі прафесійныя кантракты і болей фірм-спонсараў. А ўвогуле, цяпер польскі футбол і нацыянальны спорт на ўздыме, і не толькі ў сувязі з правядзеннем у наступным годзе разам з Украінай фіналу першынства Еўропы. Мне, як даўняму аматару спорту, было ад чаго прыйсці ў захапленне.

Скажам, у палякаў ёсць свае два спецыялізаваныя футбольныя тэлеканалы. Для аматараў самай папулярнай гульні свету ў Польшчы штотыдзень аператыўна выдаюцца каляровыя ілюстраваныя футбольныя часопісы з самай разнастайнай інфармацыяй аб гульнях прайшоўшага тура на паўсотні і болей старонках. Да прыкладу, у тым жа Гіжыцку мясцовая раённая газета кожны панядзелак выдае таксама каляровы спартыўны дадатак аж на 8-мі старонках. Па выхадных працуюць спартыўныя журналісты і шырока расказваюць аб баталіях на зялёных газонах, больш падрабязна аб гульнях сваіх каманд і выніках матчаў у экстралізе і астатніх лігах польскага футболу.

Дзякуючы папулярызацыі гэтай гульні і наяўнасці сучаснай спартыўнай базы палякі далёка адарваліся ад нас. У суседзяў на трыбунах збіраюцца дзясяткі тысяч людзей, усё выглядае паеўрапейску. Там багата і іншых спартыўных клубаў па гульнявых відах спорту і не толькі. Кожны горад ганарыцца сваімі лепшымі спартсменамі, падтрымлівае спартыўныя таленты. А пачынаецца ўсё з актыўнага ладу жыцця. Палякі паўсюдна, нават у буйных вёсках пачалі будаваць веласіпедныя дарожкі з ліхтарамі, трасы для кросаў і лыжных прабегаў.

Вельмі модна ў Польшчы стала гадаваць на вёсцы коней, куды па выхадных прыязджаюць з горада пакатацца верхам самыя смелыя, а іншыя проста праехацца на запрэжанай брычцы. Ужо не дзіўна, што вясельны картэж можа пад'ехаць да касцёла вянчацца на беласнежнай карэце. А вось пажылыя польскія сямейныя пары часта на гадавіну свайго "залатога" вяселля прыязджаюць на заказаных шыкоўных лімузінах, аб чым потым напішуць у газеце альбо пакажуць у выпуску навін мясцовага тэлебачання.





Дарэчы, я заўважыў у палякаў яшчэ адну асаблівасць іх жыцця. Усё часцей мясцовыя органы кіравання размяшчаюцца ў старажытных будынках пасля іх рэстаўрацыі. Вось і ў Элку рэзідэнцыя прэзідэнта мяста, праўленні павета і гміны занялі памяшканні з адметнай прускай архітэктурай. У самім горадзе паступова шматпавярхоўкі старой пабудовы набываюць ранейшае сваё хараство і прыгожа глядзяцца, як новыя. У гэтым я пераканаўся, калі разам са шваграм пешшу прагуляліся ў гістарычны цэнтр гэтага паселішча.

**Пад дрэвамі Адама і Евы**

Адным з любімых месцаў адпачынку пажылых жыхароў гэтага горада і мам малых дзетак (для іх паўстаў яшчэ і гульнявы гарадок ля возера) стаў утульны парк Салідарнасці. Тут, на вуліцы Яна і Гераіма Малецкіх, спачатку з дапамогай сродкаў праграм рэгіянальнага развіцця Еўрасаюзу спачатку быў адноўлены вялізны пяціпаверховы дом 1911 года пабудовы. Агульны кошт аднаўленчых работ склаў каля 9 млн. злотых, а еўрапейцы выдаткавалі на гэты архітэктурны шэдэўр каля 6 мільёнаў. Астатнюю суму на рамонт выдзеліў бюджэт мясцовай гміны.

Гэта месца гараджане лічаць сэрцам Элка, тут найчасцей прызначаюць спатканні закаханыя пары. Сам парк у цэнтры горада пасярод ажыўленых вуліц быў закладзены на мяжы 19 і 20-га стагоддзяў у гонар каралевы Луізы, жонкі караля Прусіі. Яе зямны шлях быў кароткі, прыгожая жанчына памерла ва ўзросце 34 гадоў. У памяць аб ёй тады заклалі гэты сапраўдны помнік прыроды, паколькі і зараз парк упрыгожваюць 146 дрэў, у асноўным ліп. Аднак сярод гэтай расліннасці пераважаюць два букі вышынёй 22 і 24 метры, якіх назвалі імёнамі Адама і Евы, аб чым сведчаць спецыяльныя таблічкі.

Акрамя гранітнай пліты з выявай каралевы, у гэтым парку стаяць і два помнікі. Больш старажытны з іх паўстаў у гонар мясцовага грамадскага дзеяча, паэта і этнографа Міхала Койкі. За камуністычным часам з'явіўся манумент з мармуру ў гонар падзей 2-й Сусветнай вайны, праўда, з адпаведнай сімволікай. Але час унёс свае карэктывы – і не стала чырвонай зоркі. На версе манумента цяпер узвышаецца новы сімвал – польскі арол. Прыйшлося змяніць і надпіс на помніку: "Палеглым у войнах за свабоду Польшчы". Дарэчы, на ўездзе ў горад ёсць і добра дагледжанае месца пахавання загінуўшых тут савецкіх воінаў.

Падчас праводзімай рэканструкцыі парку, расказваў і паказваў мой швагер Мечыслаў, пастараліся максімальна захаваць першапачатковае аблічча гэтай плошчы з паркам. Такім жа чынам правялі абнаўленне старажытнага галоўнага фантана і яшчэ двух, меншых па аб'ёмах. Па архіўных фотаздымках спецыяльна былі выраблены металічныя лаўкі ў стылі 19 стагоддзя, як і вулічныя ліхтары і нават адмысловыя прускія сметніцы. У старажытным стылі паклалі брукаваныя рознакаляровыя дарожкі па парку. А вось на ўзбярэжжы мясцовага возера ранейшы просты гаспадарчы будынак ператварыўся ў Элку ў сучасны цэнтр экалагічнай асветы. Вакол яго паўстаў сапраўдны батанічны сад са шматлікімі прыгожымі драўлянымі скульптурамі, лавачкамі для адпачынку ў засені рэдкіх дрэў і кустоў з мноствам кветак. Увогуле, у палякаў паўсюдна бачна цяга да сапраўднай прыгажосці нават на панадворках сялянскіх дамоў. Аднак зноў жа хачу падкрэсліць: атрымалася гэта ў іх менавіта дзякуючы моцнаму жаданню змяніць аблічча сваёй краіны, каб яна стала нагадваць сапраўдную Еўропу. На месцах жывуць і працуюць ініцыятыўныя людзі, складаюць смелыя праекты і могуць разлічваць на значную дапамогу еўрапейскіх структур.

У адзін з найлепшых для такіх замежных інвестыцый гадоў, паведамі мне ў праўленні павета, Элк атрымаў з Брусэля 30 мільёнаў злотых бязвыплатнай дапамогі. Амаль палова гэтых сродкаў пайшла тады на пабудову сельскагаспадарчага каледжа з гастранічнай школай, на якую прыйшлося самім шукаць 4 млн. злотых. Прычым яна павінна была быць вытрымана цалкам па еўрапейскіх стандартах жыцця, як і іншыя аб'екты. У прыватнасці, з 400 кіламетраў дарог, якія знаходзяцца на раённым бюджэце, чацвёртая частка ўжо атрымала новае жыццё пасля капітальнага рамонту. Гэтыя праекты ішлі няпроста, паколькі былі пратэсты наконт таго, што нельга рушыць старыя прускія дарогі з камянёў. У шэрагу месцаў спецыяльна пакінулі для нашчадкаў такія ўчасткі па сотні метраў з адмысловым брукам.

Падчас сустрэчы ў павеце мне паведамілі, што за 4 гады на розныя праграмы з фондаў Еўрасаюзу прыйшло на дапамогу аж 100 млн. злотых. За такія сродкі пабудавалі павятовы стадыён, капітальна адрамантавалі 2 ліцэі, узвялі спецыялізаваную школу-інтэрнат для сірот і дзяцей-інвалідаў, Дом сацыяльнай грамадскай узаемадапамогі з цэнтрам знаходжання псіхічна хворых. Дарэчы, менавіта за сферу аховы здароўя павінен адказваць у першую чаргу павет (раён). У Элку ён утрымлівае новы мясцовы шпіталь паралельна з адпаведным агульнапольскім фондам.

У гэтай сферы, не сакрэт, найбольш праблем, бо шмат сродкаў патрабуе медыцына. Да прыкладу, з Ольштына на год можа паступіць 1 млн. злотых на правядзенне розных складаных аперацый. Аднак жыццё непрадказальнае, і калі такіх сродкаў хопіць дзесьці на 200 хірургічных умяшальніцтваў, то бываюць праблемы ў выпадку павелічэння аперацый ў канцы года, калі колькасць хворых узрастае. Тады прыходзіцца некаму з пацыентаў і пачакаць.

Цікава, што існуюць два віды знешняй дапамогі мясцовым органам самакіравання: у выглядзе датацый і субвенцый. У першым выпадку грошы выдзяляюцца пад канкрэтную праграму альбо праект, які павінен быць дэталёва пралічаны, і потым па ўсіх праведзеных расходах прадастаўляюцца справаздачы. А вось большасць гмін і паветаў змагаюцца за права атрымання не толькі з Брусэлю, але і з Варшавы субвенцый (гэтыя сродкі можна расходаваць па сваім рашэнні). Польскі ўрад мае штогод на субвенцыі адным толькі гмінам 1 мільярд злотых. На месцах ідзе пэўнае суперніцтва за права атрымання дадатковых сродкаў. Яны выдзяляюцца тым, хто робіць болей за іншых і змяняе свае гарадкі і мястэчкі ў лепшы бок.

**Заканчэнне будзе.**

**На здымках**: Вось такія стадыёны ёсць амаль у кожным горадзе; школа мастацтваў у Элку.

## ІМЯНІНЫ

**8 снежня**

**Пр.**: Аляксандра, Васіля, івана,Паўла,Пятра, Рыгора

**К.:** НЕЗАГАННАЕ ПАЧАЦЦЕ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ДЗЕВЫ МАРЫІ.

**9 снежня**

**Пр.:** Георгія, Пятра, Васіля, Ільі, Якава.

**К.:** Леакадзіі, Наталлі, Яўхіма.

**10 снежня**

**Пр.:** Івана, Мікалая, Сяргея, Захара, Рамана, Усевалада,Барыса, Аляксея.

К.: Марыі, Юліі, Андрэя, Даніэля, Рыгора.

**11 снежня**

**Пр.:**Васіля, Івана, Мікалая, Фёдара,Аляксея, Сцяпана.

**К.:** Клары, Даніэля, Сцяпана.

**12 снежня**

**Пр.:** Парамона.

**К.:** Адэлаіды, Аляксандра, Кандрата, Жанны..

**13 снежня**

**Пр**.: Андрэя Першазваннага.

**К.:**Юліі, Пятра, Уладзіміра, Люцыі.

**14 снежня**

**Пр.:** Навума.

**К.:** Альфрэда, Ізыдара, Яна.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Интриган | | | | | | | | | Ящик для хранения зерна |
| Защита от дождя и солнца | | Эпоксидная … | | "Красные поляны", режиссер | | Предохранитель у гранаты | | Рассказ Ивана Бунина | |
| | | | | Бочка | | | | | |
| Разновидность керамики | | Часть Тель-Авива | | Титул в Англии | | Подвид крупного рогатого скота | | Яшкина еда | |
| | | | | | Муж дочери | | | | |
| Взрывчатое вещество | Танцевальное движение в балете | | | | | | Сплав Fe, Ni, Al | | Часть лошади |
| | Древняя страна на Ближнем Востоке | | Важный этап в развитии | | Морское парусное судно | | | | |
| | | | | Шелковая ткань | | | | | |
| | Балбес | Эскимоская лодка | | Церк. должностное лицо в Европе | | Часть пиджака | | Страховой документ | |
| | | | | Свиной … | | | | | |
| | Проба для выявления туберкулеза | | | | | | …-Лукойе | | Основа |
| | | | Буйный … | | Кока-… | | | | |
| | "… ветра в поле" | | Спектральный … | | | | | | |
| … Свердлов | | | | | Знак зодиака | | | | |

**Ответы на сканворд № 48**

**По горизонтали:** Гуситы. Мшара. Йогурт. Наезд. Арамис. Тюрьма. Айдахо. Пятак. Урок. Отказ. Сафари. Нар. Аркада. Шторм. Маг. Поляна. **По вертикали:** Гайдамак. Сигма. Торги. Монотип. Алеврит. Рай. Муар. Сток. Дуга. Хор. Ялта. Аноа. Трамп. Кир. Знамя. Прага. Сушь. Фтор. Адан.

# ГАРАСКОП

## на новы тыдзень

**АВЕН.** Добры час для людзей творчых прафесій, а таксама для тых, хто працуе з людзьмі. Ваша крэатыўнасць і вынаходлівасць стане абуджаць у людзях адмоўныя эмоцыі. Дзякуючы гэтаму, фінансавае становішча паправіцца, і вы зможаце дазволіць сабе даўно запланаваныя пакупкі. Дзеці таксама запатрабуюць вашай увагі. Да канца тыдня аўрал на працы скончыцца, і вы зможаце вольна ўздыхнуць. Здароўю цяпер нішто не пагражае. Галоўнае - своечасовая прафілактыка захворванняў і асцярожнае стаўленне да рэсурсаў арганізма.

**ЦЯЛЕЦ.** Не варта на гэтым тыдні запускаць новыя праекты, лепш заняцца завяршэннем старых: памалу едзеш - далей будзеш. Падводзьце вынікі, рабіце высновы, выконвайце дадзеныя абяцанні,разлічвайцеся з абавязкамі. Фінансавае становішча застанецца стабільным, калі вы навучыцеся трохі эканоміць у дробязях. Калі знаходзіцеся з кімсьці ў канфлікце, абавязкова пмірыцеся, інакш гэта варожасць пераандруе ў наступны год,ператварыўшыся ў цвёрдую перашкоду.

**БЛІЗНЯТЫ.** Акалічнасці дазволяць вам займацца тым, што раней не ўяўлялася магчымым. Працаздольнасць павялічыцца і, як следства, прынясе з сабой добрыя вынікі і павелічэнне дабрабыту. Велізарную ролю ў вашым жыцці сыграюць сваякі, варта прыслухацца да іх рад, яны будуць не лішнімі. На гэтым этапе Блізняты змогуць пахваліцца выдатным здароўем. Дзейнічайце, адпраўцеся ў госці, наведайце тэатр, кіназалу. Там вас чакае душэўная падзарадка.

**РАК.** Гэты тыдзень - не зусім спрыяльны этап для любых прафесійных распачынанняў і фінансавых укладанняў. Паездкі і камандзіроўкі лепш таксама адкласці да перадначаднах часоў, у знаёмствах варта быць больш абачлівымі. Пазбягайце разнастайных авантур і сумніўных аперацый. Калі справы не ладзяцца, вінавper не шукайце. У канцы тыдня ўзрасце небяспека траўматызму, будзьце асцярожныя, пазбягайце залішне актыўных і экстрэмальных відаў адпачынку.

**ЛЕЎ.** Рабіце тое, што хочацца, акрамя новых спраў: для рэалізацыі грандыёзных праектаў час непадыходзячы. Прадстаўнікам знака, якія маюць непасрэдны кантакт з каштоўнымі паперамі, фінансамі, страхоўкамі, вельмі важна выконваць усе правілы і своечасовасць у абавязацельствах. Выхадныя лепш прысвяціць наведванню новых цікавых месцаў, самаадукацыі, пашырэнню далягляду.

**ПАННА.** У прафесійным плане гэты тыдзень пройдзе пад знакам творчасці і неардынарных рашэнняў. З пункту гледжання прыбыткаў, гэты тыдзень таксама будзе вельмі ўдалы. Праўда, прыйдзецца нямала папрацаваць. Галоўнае - моцна стаяць на зямлі, адэкватна ўспрымаць рэальнасць. Варта надаць увагу пытанням завяшчання, страхавання, падаткаў і г. д. Вашы прыбыткі будуць упэўнена расці, але не дапускайце залішняга марнатраўства. Узрасце верагоднасць прастудных і інфекцыйных захворванняў.

**ШАЛІ.** На працягу доўгага часу вы рупліва працавалі, і вось нарэшце настаў час пажынаць плады. У прафесійнай дзейнасці вас чакае небывалы ўздым. Магчыма пасоўванне па службе ці павелічэнне заработнай платы. Тыдзень спрыяльны для пачатку рамонту ў хаце ці частковай змены інтэр'еру. Выхадныя правядзіце ў крузе сям'і ці добрых сяброў. Дзеці запатрабуюць вельмі шмат увагі, і ўвесь свой вольны час прыйдзецца прысвяціць ім.

**СКАРПІЁН.** Асноўны кірунак гэтага тыдня – прафесійная рэалізацыя. Некаторыя могуць атрымаць нечаканае пасоўванне па службе. Усе грашовыя распачынанні на гэтым тыдні абяцаюць быць паспяховымі. Але ўсё ж варта быць напагатове, начальства можа нечакана здзівіць. Выдатны час для буйных пакупак, якія даўно планаваліся. Здароўе не выкліча турбаванняў, калі старанна пра яго клапаціцца. На выхадных вас, магчыма, наведаюць госці здалёку.

**СТРАЛЕЦ.** Цяпер любоўныя адносіны выступаюць на першы план, а працу (вучобу) захочацца крыху адсунуць. Узмоцняцца пачуццёвасць і капрызнасць, магчымыя перапады настрою. Паспрабуйце сябе кантраляваць, у адваротным выпадку можна надоўга пасварыцца з партнёрам. Другая палова тыдня накіравана планамі ў будучыню. Вы зможаце моцна прасунуцца ў кар'еры. Цяпер сапраўды лепш завяршаць старое і не брацца за новыя праекты. Хоць ад душы памарыць вы зможаце, і цалкам магчыма, што тое, пра што марыцца, рэалізуецца ў хуткім часе.

**КАЗЯРОГ.** Пачатак тыдня будзе прадукцыйным, таму назапасьцеся цярпеннем. Завяршайце пачатае, займіцеся раздачай абавязкаў. Другая палова - нядрэнны перыяд для рашэння пытання выбару спецыялістаў. Паспрабуйце старанна адбіраць людзей на ролю кансультантаў, паколькі не ўсе з іх адпавядаюць заяўленаму статусу.

**ВАДАЛЕЙ.** Унікальная харызма Вадалеяў такая, што яны здольныя ўсюды паспець, сумяшчаючы працу, сям'ю і адпачынак. Не заўсёды гэта прыносіць жаданыя вынікі. Часам адно звяно ў ланцужку падводзіць; на гэтым тыдні гэтым звяном можа быць здароўе. Знясіленая імунная сістэма можа даць збой, і сіл на яе аднаўленне прыйдзецца выдаткаваць шмат. Барацьба з акалічнасцямі здольная таксама падарваць ваша фінансавае становішча. Імкніцеся ва ўсім быць умеранымі.

**РЫБЫ.** Асцярожнасць на новым тыдні не перашкодзіць. Калі ў вашым асяроддзі з'явіўся чалавек з няпростым мінулым ці з прабеламі ў біяграфіі, паспрабуйце не сузразмоўнічаць з ім. У адваротным выпадку вас чакаюць невырашальныя праблемы. Імпульсіўнасць у прыняцці рашэнняў - не лепшы спосаб выправіць становішча. Не паддавайцеся імпульсу, прадумвайце ўласныя крокі. На працягу ўсяго тыдня атмасфера вакол вас абвострана, таму магчымыя праблемы з электраабсталяваннем.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

“Вольнае Глыбокае”
Заснавальнік:
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ўдрук 06. 12. 2011 года ў 21[05]

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 3615



Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023

9 772077 802009